● Дэмаграфічная праблема

# Праз 50 гадоў Беларусь можа пазбавіцца паловы свайго насельніцтва

***15 мая ў Беларусі адзначаўся Дзень сям'і. З нагоды гэтага свята, каб абмеркаваць праблему рэпрадуктыўнага здароўя беларускай нацыі і дэмаграфічнай бяспекі нашай краіны, у Нацыянальным прэс-цэнтры за "круглым сталом" сабраліся спецыялісты міністэрстваў статыстыкі, працы, аховы здароўя і сацыяльнай абароны насельніцтва.***

Як паведаміла начальнік аддзела дэмаграфічнай статыстыкі Міністэрства статыстыкі РБ Таццяна Паляўцова, па стану на 1 студзеня 2000 года насельніцтва Беларусі налічвала 10 млн. 19 тыс. чалавек. У гарадах і гарадскіх пасёлках пражывала 70 і ў сельскай мясцовасці — 30 працэнтаў агульнай колькасці жыхароў Беларусі.

Пачынаючы з пасляваенных гадоў, колькасць насельніцтва нашай краіны пастаянна расла (натуральны прырост складаў штогод 5-7 народжаных на 1 тысячу насельніцтва) і дасягнула даваеннага паказчыка ў сярэдзіне 70-х гадоў. Рост колькасці насельніцтва Беларусі рэгістраваўся аж да 1993 года, а з 1994 года ў рэспубліцы пачаўся працэс дэпапуляцыі, які, магчыма, працягнецца да 2005 года, калі ў дзетародны перыяд уступяць жанчыны, народжаныя ў пік так званага "бэбі-бума" 80-х.

У параўнанні з 1990 годам насельніцтва Беларусі скарацілася ўжо на 191 тысячу: колькасць жанчын зменшылася за гэты перыяд на 112 тысяч чалавек, а мужчын — на 80 тысяч. Кампенсаваць натуральныя страты насельніцтва Беларусі сёння не ў стане і аб'ём міграцыйнага прыросту, які, напрыклад, у мінулым годзе склаў толькі 17 тысяч чалавек.

У многім дэмаграфічная бяспека краіны абумоўліваецца высокай нараджальнасцю. Аднак у нашай краіне колькасць народжаных дзяцей працягвае змяншацца: у параўнанні з 1990 годам яна зменшылася з 57 да 35 працэнтаў на 1 тысячу жанчын дзетароднага ўзросту. У 1999 годзе ў Беларусі нарадзіліся толькі 93 тысячы дзяцей: гэта на 73 тысячы менш, чым у 1985 годзе. Цікава, што ў Індыі за два дні нараджаецца больш дзяцей, чым у Беларусі на працягу цэлага года. У сучасны момант дзіцем з'яўляецца толькі кожны пяты жыхар Беларусі, і ў выпадку захавання цяперашняга невысокага ўзроўню нараджальнасці ўсяго праз 10 гадоў дзеці будуць займаць у беларускім грамадстве толькі ад 13 да 15 працэнтаў.

У 80-я гады ў Беларусі, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, укаранілася мадэль двухдзетнай сям'і, якая можа забяспечыць толькі натуральнае ўзнаўленне насельніцтва. Аднак у 90-я гады, нягледзячы на вынікі сацыялагічных апытанняў, якія сведчаць аб высокай каштоўнасці сярод моладзі сям'і і дзяцей, колькасць двухдзетных сем'яў у краіне пачала істотна скарачацца. Калі для звычайнага ўзнаўлення насельніцтва павінна прыпадаць 2,015 дзіцяці на 1 жанчыну, то ў Беларусі гэты паказчык складае зараз 1,226 дзіцяці на адну жанчыну. На сённяшні дзень 54 працэнты поўных сем'яў маюць толькі адно дзіця. Затое істотна вырас працэнт нараджэння немаўлят у незамужніх жанчын: з 7,5 працэнта ў 1990 годзе да 18 працэнтаў у 1999 годзе, што з'яўляецца доказам падзення ролі сям'і ў беларускім грамадстве.

Асноўныя прычыны, па якіх сем'і адмаўляюцца ад нараджэння дзяцей, — гэта нявызначанасць эканамічных перспектыў, сацыяльная неабароненасць сем'яў ва ўмовах рэзкага пагаршэння ўмоў жыцця, страх за здароўе нашчадкаў, матываваны наступствамі чарнобыльскай катастрофы, змяненне сістэмы каштоўнасцяў у грамадстве.

Хаця, з іншага боку, усё большая колькасць беларускіх сем'яў не могуць займець дзяцей па прычыне сваёй бясплоднасці. Дакладнай статыстыкі наконт гэтага няма, але назіранні спецыялістаў сведчаць аб тым, што не могуць мець дзяцей па прычыне тых ці іншых захворванняў мужчыны ці жанчыны ад 10 да 20 працэнтаў беларускіх сем'яў. Галоўны акушэр-гінеколаг Міністэрства аховы здароўя РБ Уладзімір Сілява, у прыватнасці, паведаміў, што больш за адну трэць усіх аперацый, якія праводзяцца ў медыцынскіх установах нашай краіны, робяцца на рэпрадуктыўных органах жанчын (не лічачы аперацый на малочных залозах), а гэта азначае, што рэпрадуктыўнай сістэме жанчыны наносіцца магутны удар.

У апошнія гады рэгіструецца не толькі рост гінекалагічнай паталогіі ў жанчын, але і яе рэзкае амалажэнне. У 1995 годзе ў Беларусі было зроблена 81 тысяча гінекалагічных аперацый, а ў 1999 годзе — 102 тысячы. Смяротнасць ад анкалагічнай паталогіі рэпрадуктыўных органаў павялічылася за апошнія 10 гадоў з 12,9 да 13,8 выпадка на 100 тысяч насельніцтва. На думку спецыялістаў, рост гінекалагічных захворванняў з'яўляецца своеасаблівай расплатай сучасных жанчын за адмову ад нараджэння дзяцей, бо прыродай закладзена, што ў перыяд цяжарнасці і пасляродавай лактацыі рэпрадуктыўная сістэма жанчыны адпачывае. Сучасныя ж жанчыны гэтага адпачынку не маюць. Дарэчы, 100 гадоў таму на кожную жанчыну прыпадала ў рэпрадуктыўным узросце па 7-8 родаў, а цяпер толькі 1,023.

Выклікае трывогу таксама і стан здароўя цяжарных жанчын. Так, у 1998 годзе 29 працэнтаў жанчын, якія нарадзілі дзяцей, мелі анемію (у 1990 г. — 14 працэнтаў), 13 працэнтаў — захворванні мочаполавай сістэмы, у 8 працэнтаў адзначаўся позні таксікоз.

У той жа час паказчык смяротнасці немаўлят зараз у Беларусі самы ніжэйшы за ўсю гісторыю і самы ніжэйшы ў краінах СНД: смяротнасць немаўлят да 1 года, г. зн. у самы крытычны перыяд жыцця, складае ў агульнай смяротнасці беларусаў менш за 1 працэнт (у 60-я гады дасягала 10 працэнтаў). Па гэтым паказчыку Беларусь знаходзіцца на ўзроўні іншых еўрапейскіх краін, а гэта значыць, што рэзервы паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі ў рэспубліцы за кошт далейшага зніжэння смяротнасці немаўлят у нас ужо практычна вычарпаны.

Другая тэндэнцыя, якой характарызуецца сёння дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі, — гэта рост агульнага каэфіцыента смяротнасці і старэнне насельніцтва краіны. Па вызначэнню ААН, насельніцтва краіны лічыцца старым, калі ў грамадстве доля людзей ва ўзросце 65 гадоў і больш складае 7 працэнтаў. У нашай жа рэспубліцы колькасць людзей гэтай узроставай групы складае ўжо больш як 13 працэнтаў. У апошнія гады ў Беларусі рэгіструецца рост колькасці памёршых практычна ва ўсіх узроставых групах, а найбольш высокі з 1990 года тэмп смяротнасці адзначаецца ў мужчын і жанчын ва ўзроставай групе 50-54 гады. Каэфіцыент смяротнасці ў 1998 годзе аказаўся вышэйшым за каэфіцыент 1990 года на 26,2 працэнта.

Чаканая працягласць жыцця беларусаў зменшылася ў параўнанні з 1990 годам у мужчын на 3,6 года, у жанчын — на 1,2 года і склала ў 1998 годзе адпаведна 62,7 і 74,4 года. Аднак існуе істотнае адрозненне ў паказчыках захворваемасці і смяротнасці гарадскіх і сельскіх жыхароў. У сельскіх мужчын працягласць жыцця на 4,5 года ніжэй, чым у гарадскіх, а сярод сельскіх і гарадскіх жанчын гэта розніца складае больш чым два гады. Па прагнозах спецыялістаў, пры захаванні сённяшніх дэмаграфічных тэндэнцый праз 40-50 гадоў у сельскай мясцовасці ўвогуле не застанецца працаздольнага насельніцтва, а насельніцтва Беларусі можа скараціцца праз 50 гадоў практычна ўдвая.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



*Мае сябры.* *Фота Валерыя БЫСАВА.*

● Бяспека

## Якой будзе новая ваенная дактрына Беларусі?

***23 мая ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылося пасяджэнне "круглага стала", на якім абмяркоўваліся пытанні бяспекі Беларусі і Саюзнай дзяржавы, а таксама новая ваенная дактрына Расіі.***

Вядучы "круглага стала", начальнік інфармацыйна-аналітычнага аддзела Цэнтра ваенных даследаванняў Міністэрства абароны Беларусі Ігар Ігнашчанка нагадаў, што "ваенная канстытуцыя" Расіі была зацверджана 21 красавіка гэтага года. У новай расійскай ваеннай дактрыне згадваецца, што РФ праводзіць сумесна з Беларуссю агульную абаронную палітыку і наогул выступае своеасаблівым гарантам ядзернай бяспекі нашай дзяржавы. Расія таксама пакідае за сабой права ў мэтах абароны нацыянальных інтарэсаў прымяняць свае войскі за межамі РФ.

Адметна, што ў Беларусі пакуль дзейнічае больш міралюбівая ваенная дактрына, прынятая на хвалі дэмакратызацыі яшчэ ў 1992 годзе. Цяперашняе кіраўніцтва Узброеных Сіл Беларусі лічыць гэтую дактрыну "устарэлай". Таму Міністэрства абароны Беларусі падрыхтавала праект новай ваеннай дактрыны нашай дзяржавы. Зараз гэты праект знаходзіцца ў Савеце бяспекі. Пакуль дакладна невядома, якой будзе новая ваенная дактрына нашай дзяржавы. На пытанні ці прадугледжана ў праекце новай ваеннай дактрыны вяртанне ў Беларусь ядзернай зброі і наогул, чым прынцыпова адрозніваецца новая дактрына ад існуючай, было адзначана, што пакуль у праекце сабраны толькі меркаванні экспертаў. Адзін з такіх экспертаў, галоўны спецыяліст аддзела па забеспячэнню дзейнасці Камісіі па нацыянальнай бяспецы сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Мікалай Катэнка прымаў удзел у пасяджэнні "круглага стала". Па словах Мікалая Катэнкі, згодна з праектам новай дактрыны вяртанне ядзернай зброі ў Беларусь не прадугледжана.

Што датычыць прынцыповых адметнасцяў новага праекта ваеннай дактрыны, то, як адзначыў Мікалай Катэнка, ён і некаторыя іншыя эксперты ўносілі прапановы вызначыць дакладна верагодным праціўнікам Беларусі ЗША і іншыя краіны НАТО. Аднак і сам Мікалай Катэнка, і іншыя ўдзельнікі "круглага стала" падкрэслілі, што гэта пакуль толькі меркаванні экспертаў. А кропку ў спрэчках па праекту новай ваеннай дактрыны павінны паставіць парламент і прэзідэнт.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Расіі канкрэтызавалі план далейшых дзеянняў

Стан і перспектывы далейшага супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй абмеркавалі на сустрэчы прэм'ер-міністр нашай краіны Уладзімір Ярмошын і старшыня ўрада Расіі Міхаіл Касьянаў. Двухбаковыя перагаворы праходзілі ў рамках візіту Міхаіла Касьянава ў Мінск для ўдзелу ў пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаў — удзельніц Мытнага саюза.

Прэм'ер-міністры дзвюх краін разгледзелі комплекс эканамічных пытанняў па рэалізацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Прычым размова ішла аб распрацоўцы стратэгічнай лініі і рэальных падыходаў па выкананню гэтай важнай задачы. Аб гэтым паведаміў Уладзімір Ярмошын журналістам пасля завяршэння перагавораў.

Ацэньваючы вынікі сустрэчы, кіраўнік расійскага ўрада адзначыў, што яна прайшла ў дружалюбнай абстаноўцы, дасягнуты дамоўленасці па шэрагу бягучых момантаў супрацоўніцтва. Былі разгледжаны пытанні ўрэгулявання ўзаемных прэтэнзій паміж беларускімі і расійскімі прадпрыемствамі пры ажыццяўленні паставак і разлікаў, а таксама пры забяспечэнні беларускай эканомікі паліўна-энергетычнымі рэсурсамі. Акрамя таго, бакі разгледзелі тэму гарманізацыі падатковых сістэм, мытных тарыфаў.

На думку прэм'ер-міністраў, адносіны паміж нашымі краінамі цяпер знаходзяцца ўжо ў той стадыі, калі неабходна канкрэтызаваць план далейшых дзеянняў. Некаторыя крокі на гэтым шляху ўжо зроблены. Уладзімір Ярмошын паведаміў аб падрыхтоўцы пагаднення па стварэнню адзінай падатковай прасторы. Міністэрствы фінансаў дзвюх краін ужо парафіравалі гэты дакумент.

***Лілія* КРАПІВІНА,**
**БелТА.**

● Беларусь і свет

## Беларуская дыяспара як магутны фактар уваходжання краіны ў сусветнае супольніцтва

Прэзідэнт А.Лукашэнка атрымаў ліст ад жыхароў Луганскай вобласці Украіны, пад якім стаіць звыш трох тысяч подпісаў. У ім падкрэсліваецца памылковасць дзеянняў па развалу Савецкага Саюза і даецца высокая ацэнка дзейнасці беларускага лідэра па яднанню брацкіх народаў. У Луганску створана ініцыятыўная група па стварэнню таварыства дружбы народаў Украіны і Беларусі, у якую ўваходзяць украінцы, і выхадцы з нашай рэспублікі. "Неабходна ўзаемасувязь і ўзаемадзеянне для дасягнення вялікай мэты —аб'яднання брацкіх народаў", — гаворыцца ў лісце. Каменціруе гэты факт памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў.

— "Аўтары ліста дакладна заўважылі думку аб неабходнасці ўзаемасувязі і ўзаемадзеяння ў справе аднаўлення і ўмацавання нашай дружбы. Але я хачу паставіць пытанне шырэй — аб ролі беларускай дыяспары ў краінах свету. У апошнія гады нашы адносіны з ёю крыху "разладзіліся". А калі краіна-маці клапоціцца аб сваіх "дзецях", якія па волі лёсу апынуліся ў іншых дзяржавах, тады дыяспара аказвае дапамогу краіне. На жаль, мы ў гэтых адносінах недапрацоўваем.

Напрыклад, у Расійскай Федэрацыі існуюць самыя магутныя ўкраінская, армянская, азербайджанская дыяспары. І яны аказваюць вельмі вялікі ўплыў на працэсы ўзаемавыгадных кантактаў гэтых краін з Расіяй. Менавіта дзякуючы таму, што існуе такое лобі, часта вырашаюцца вельмі сур'ёзныя праблемы і рознагалоссі. Вось чаму работа з беларускай дыяспарай на сённяшнім этапе павінна стаць важнейшай задачай і дзяржавы ў цэлым, і яе інстытутаў".

Сяргей Посахаў адзначыў, што ў рэспубліцы існуе адобраная ў 1993 годзе Саветам Міністраў Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", аднак цяпер узніклі нейкія няўвязкі з яе фінансаваннем. Гэту праблему трэба неадкладна вырашаць, лічыць ён. Але чамусьці гэта не робіцца, або робіцца вельмі нясмела. Ніхто гэтымі пытаннямі не хоча займацца — не толькі дзяржаўныя, але і грамадскія структуры.

Мы атрымліваем лісты, у якіх выхадцы з Беларусі просяць прыслаць дзяржаўную сімволіку, значкі, партрэты Францыска Скарыны, іншыя рэчы. І на гэта няма грошай. Але сапраўдную нацыянальную палітыку без грошай праводзіць наогул немагчыма. Калі мы не будзем мець апоры на выхадцаў з Беларусі ў іншых дзяржавах, наша эканоміка можа аказацца закрытай. Трэба апірацца на людзей, якія пішуць лісты, падобныя на луганскае. А самае галоўнае — рэаніміраваць праграму "Беларусы ў свеце". Прыярытэтам у гэтай рабоце павінны стаць Расія, Украіна, краіны Балтыі, Польшча, Канада, Аўстралія, дзе сканцэнтравана найбольшая колькасць беларусаў. Трэба рыхтаваць пад эгідай дзяржавы новы з'езд прадстаўнікоў беларускай дыяспары, — сказаў Сяргей Посахаў.

**Віктар ЛОЎГАЧ,**
**БелТА.**

